№11
Чэрвень 1998

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"



# Не крытыкуйце прэзідэнта — ён кіруе, як умее...

Адыйшлі ў нябыт тыя дні, калі тэлетрансляцыі пасяджэньняў парламенту глядзеліся электаратам зь няменьшай цікавасьцю, чымсьці чарговая лацінаамерыканская "мыльная опера". Пасьля таго, як прэзідэнт Лукашэнка пакінуў у сваім кішэнным парламенце — Палаце прадстаўнікоў — толькі "чэсных" дэпутатаў, грамадзяне Беларусі і зусім забыліся пра тое, што ёсьць у іхняй краіне акрамя усенароднаабранай улады яшчэ і заканадаўчая. Штучна створаны гора-парламент, які так і застаецца непрызнаным ва ўсім сьвеце (апроч, пэўна, Расіі), праўда, зрэдку нагадвае пра сваё існаваньне. Чарговым глупствам, альбо непрыхаваным жаданьнем выслужыцца перад сваім "патронам".

Весткі, якія прыйшлі з Палаты прадстаўнікоў 4 чэрвеня, маглі зьдзівіць хіба толькі чалавека, які зусім нічога ня ведае пра сітуацыю ў сёньняшняй Беларусі. Дэпутаты ў першым чытаньні прынялі законапраект, які можна ўмоўна назваць "Аб абароне гонару і годнасьці прэзідэнта Беларусі" (умоўна, бо дакладная назва ў друку не паведамляецца, сталі вядомыя толькі асноўныя палажэньні "закона"). Паводле яго ў Крымінальным кодэксе Беларусі павінен зьявіцца новы артыкул "аб адказнасьці за зьнявагу прэзідэнта". Грамадзяніну, якога прызнаюць вінаватым у такім "злачынстве", будзе пагражаць да чатырох гадоў турэмнага зьняволеньня. Гэта па першым разе. За паўторную "зьнявагу прэзідэнта" тэрмін будзе павялічаны да пяці гадоў. Адпаведныя карэкціроўкі будуць унесены і ў Адміністратыўны кодэкс: дэманстрантаў, якія будуць карыстацца транспарантамі, плакатамі і іншымі сродкамі, "зьмест якіх прыніжае гонар і годнасьць прэзідэнта Беларусі", чакае пакараньне штрафам у памеры ад 20 да 100 мінімальных заробкаў (да 500 даляраў ЗША) альбо арышт да 15 сутак.

Плануецца таксама ўнесьці зьмены ў закон "Аб прэзідэнце". Вядома, самому А. Лукашэнку няма часу зьбіраць і ацэньваць "зьняважлівыя" матэрыялы пра сябе, яму трэба дзяржавай кіраваць, а таму "ганаровы" абавязак сачыць за захаваньнем "закону" і ўзбуджаць крымінальныя справы супраць "парушальнікаў" яго даручаны Генеральнаму пракурору Беларусі, а таксама пракурорам абласьцей і горада Менску. Зразумела, пры згодзе

(Працяг на стар. 2)

## Хроніка

*У канцы мая* — у Віцебску прайшоў міжнародны семінар, прысьвечаны СМІ. Напярэдадні семінара, увечары яго ным арганізатарам адмовілі ў арэндаванай імі зале, быў аказаны ўціск на прадстаўнікоў дзяржаўных СМІ, каб яны адмовіліся ад удзелу ў семінары. Семінар усё ж прайшоў у падвальным памяшканьні.

*30 мая* — у Гродні, за раздачу пад час пікета інфармацыі пра маладзёжную арганізацыю "Маладой Грамады", міліцыяй быў затрыманы старшыня гродзенскай "Маладой Грамады" В.Аскірка.

*На пачатку чэрвеня* — адміністрацыя прэзідэнта вырашыла ліквідаваць адзіны ў Менску ліцэй з беларускай мовай навучаньня. Бацькі распачалі акцыі пратэсту, пададзеныя заяўкі на пікеты.

*На пачатку чэрвеня* — Менгарвыканкам адмовіў сацыял-дэмакратычнай партыі і Таварыству беларускай мовы ў правядзеньні паэтычных чытаньняў каля помніка беларускаму паэту Янку Купалу.

*2 чэрвеня* — у Менску, пад час расклейкі ўлётак апазіцыйнага зьместу, былі затрыманыя двое маладых людзей. Пасьля арышту ў іхніх кватэрах былі праведзеныя вобшукі. "Злачынцаў" пратрымалі каля шасьці гадзінаў у пастарунку, прыгразілі завядзеньнем крымінальнай справы па артыкуле 96 (наўмыснае зьнішчэньне альбо пашкоджаньне маёмасьці), аднак, склаўшы пратаколы аб адміністратыўным правапарушэньні, адпусьцілі.

(Працяг на стар. 6)

# Цынізм на вышэйшым узроўні

***10 сьнежня 1998 года споўніцца 50 гадоў з дня прыняцьця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Лукашэнкаўская "вертыкаль" цынічна рыхтуецца да таго, каб на "афіцыйным узроўні" адзначыць "гэтае вялікае сьвята"...***

Спачатку пра самы "сьвежы" дакумент, які тычыцца адзначэньня сьвята Дэкларацыі ў вольнай краіне Беларусь. Дзяржаўны камітэт па друку РБ даслаў галоўным рэдактарам газетаў і часопісаў (па сьпісе — як падкрэсьліваецца ў дакуменце) "Палажэньне аб прэміях для журналістаў, якія асьвятляюць тэматыку правоў чалавека". У прэамбуле да "Палажэньня...", у прыватнасьці, гаворыцца: "Улічваючы асаблівую важнасьць гэтай падзеі (юбілею Дэкларацыі — *рэд.*), а таксама тое значэньне, якое надаецца пытаньням захаваньня правоў чалавека ў нашай краіне міжнароднымі і еўрапейскімі арганізацыямі, лічым неабходным на старонках дзяржаўнай прэсы удзяляць большую ўвагу асьвятленьню тэматыкі правоў чалавека. У першую чаргу неабходна сканцэнтраваць намаганьні на інфармаваньні чытачоў пра рэалізацыю замацаваных у Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь асноўных правоў і свабодаў: права на жыцьцё, годны жыцьцёвы ўзровень, права на працу, бясплатнае медыцынскае абслугоўваньне і адукацыю, свабоды слова, перакананьняў, верывызнаньня і інш. Прыярытэтным напрамкам, на наш погляд, павінна стаць таксама шырокае асьвятленьне дзяржаўнай палітыкі па забесьпячэньню сацыяльных гарантыяў грамадзянам Беларусі. У мэтах больш усебаковага і глыбокага асьвятленьня гэтай тэматыкі, рэкамендуем прыцягваць для выступленьняў і кансультацыяў сьпецыялістаў-правазнаўцаў, прадстаўнікоў уладных структураў, у сферу дзейнасьці якіх уваходзіць забесьпячэньне рэалізацыі правоў і свабодаў грамадзянаў..." І далей пра прэміі: за першае мейсца — 30 мінімальных заробкаў, за другое — 25, за трэцяе — 15. Вядома, прыняць удзел у "конкурсе" могуць толькі журналісты дзяржаўных выданьняў — такая вось у нашай краіне свабода...

Гэты дакумент Дзяржкамдруку зьявіўся ў разьвіцьцё "Плана мерапрыемстваў па сьвяткаваньні ў Рэспубліцы Беларусь 50-годзьдзя прыняцьця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека", які быў зацьверджаны Указам прэзідэнта Беларусі №36 ад 15 студзеня 1998 года. Напачатку быў створаны Аргкамітэт па сьвяткаваньні на Беларусі слаўнага 50-годзьдзя на чале зь віцэ-прэм'ерам беларускага ўраду У. Замяталіным, вядомым змагаром якраз з тымі, хто ва ўмовах сёньняшняй Беларусі яшчэ спрабуе адстойваць свае правы. Мастакам даручана распрацаваць да юбілею "нацыянальны лагатып", які будзе прапанаваны народу "для шырокага выкарыстаньня". Лагатып разам з тэкстамі асобных артыкулаў Дэкларацыі будзе выкарыстоўвацца "на тралейбусах, аўтобусах, трамваях і іншых сродках грамадскага транспарту", а таксама на сьпецыяльным канверце і марцы, якія будуць выпушчаныя да юбілею. Поўны тэкст Дэкларацыі будзе выпушчаны асобным буклетам і разасланы ва ўсе калгасы і прадпрыемствы дзеля азнаямленьня. Курс "Правы чалавека" будзе прачытаны ў войсках і міліцыі, пэўна, каб ведалі як "граматна" разганяць і арыштоўваць мітынгоўшчыкаў і пікетоўшчыкаў...

Ёсьць у гэтым дакуменце і шмат іншых цікавых пунктаў і пункцікаў, якія павінны даказаць усяму сьвету, што з дэмакратыяй і правамі чалавека на Беларусі поўны парадак. Засталося толькі правільна "асьвятліць" мерапрыемствы. Што ж, дзеля прэмій і славы "дзяржаўныя" журналісты пастараюцца. Тое, што народ ім ня надта паверыць, ня важна, галоўнае, каб паверыў і ацаніў прэзідэнт.

**А. ЧАС**




# Не крытыкуйце прэзідэнта — ён кіруе, як умее...

*(Пачатак на стар. 1)*

на тое самога "пакрыўджанага" прэзідэнта.

Асаблівая ўвага "назіральнікамі за захаваньнем гонару і годнасьці прэзідэнта" будзе надавацца зьместу газетаў і электронных СМІ. Распаўсюджваньне звестак "порочащих" прэзідэнта будзе карацца апаратыўна і жорстка. Праўда, тут паўстае пытаньне пра крытэрыі, адносна якіх звычайная крытыка кіраўніка дзяржавы ці проста згадка яго ў тэксце перарастае ў "зьнявагу" ці "паклёп", але пра гэта дэпутаты, пэўна, думалі менш за ўсё. Лукашэнкаўскі закон "Аб друку" і без таго зьвязаў рукі "залежным", "дзяржаўным" журналістам, практычна пазбавіў іх мажлівасьці казаць праўду пра метады кіраўніцтва дзяржавай "усенароднаабранага" і злоўжываньні ўладай ягонай "камандай". А цяпер журналістам пагражае яшчэ і крымінальня адказнасьць...

Зрэшты, "гонар і годнасьць" першага прэзідэнта незалежнай Беларусі строга аберагаліся паслухмянымі "унутранымі органамі" ды КДБ ці ня зь першых дзён ягонага прыходу да ўлады. Можна прыгадаць у сувязі з гэтым дзесяцімесячнае ўтрыманьне ў СІЗА паэта Славаміра Адамовіча за верш "Убей президента", альбо суд над Аляксеем Шыдлоўскім і Вадзімам Лабковічам за антыпрэзідэнцкія надпісы на сьценах дамоў у горадзе Стоўбцы... Аднак, тады гэтыя арышты не былі падмацаваныя "законам" і хлопцам доўга падбіралі крымінальныя артыкулы, каб урэшце пакараць менавіта за зьнявагу "гонару і годнасьці" прэзідэнта. Цяпер гэты "прабел" у беларускім заканадаўстве дэпутаты ліквідавалі. Самы час крычаць пра тое, што дэмакратыя квітнее на Беларусі, бо правы Самага Галоўнага Чалавека ў краіне будуць годна, дастойна і, галоўнае, цяпер ужо сапраўды ЗАКОННА, абароненыя...

**Андрэй НАЛІВА**

# Кошт памылкі — сьмерць невінаватага чалавека

***Усё больш краінаў сьвету адмаўляецца ад вынясеньня сьмяротных пакараньняў злачынцам і замяняе іх на доўгатэрміновае альбо пажыцьцёвае зьняволеньне. Па-першае, факты сьведчаць, што такое пакараньне ня менш жорсткае, а па-другое, гэткім чынам грамадства страхуе сябе ад мажлівага сьмяротнага пакараньня ні ў чым невінаватага чалавека. Беларусь сёньня застаецца ў ліку тых краінаў, у якіх сьмяротны прысуд да злачынцаў прымяняецца дагэтуль. За апошнія два гады каля 70 чалавек у Беларусі былі асуджаныя за свае злачынствы да вышэйшай меры пакараньня. Большасьць зь іх зьярталася да прэзідэнта Беларусі з хадайніцтвам аб памілаваньні, але ніводная просьба задаволена не была. Між тым, факты сьведчаць, што беларускія праваахоўныя органы не заўсёды працуюць сумленна, якасна, дакладна (прыгадаем хоць бы знакамітую "віцебскую справу"). Прынамсі, іх дзеяньні пакідаюць сумненьні ў якасьці праведзенага сьледства і ў справядлівасьці вынесенага прысуду.***

***Вось адзін зь яскравых выпадкаў.***

У лютым 1998 г. у праваабарончы цэнтр «Вясна-96» па дапамогу зьвярнулася Цярэнцьева Галіна Генадзьеўна. Яна прасіла ўратаваць ад смерці яе сына Фаміна Івана, якому пагражае сьмяротнае пакараньне.

Гісторыя зь ейным сынам была апісаная ў газеце «Знамя Юности» ад 27 лютага 1998 г. Славамірам Антановічам пад назвай «Прыгавор – расстрэл». С. Антановіч распавёў пра забойствы ў ліпені 1997 г. І. Фаміным свайго знаёмага А. Тарасенкі і таксіста «Пежо» А. Паўленкі. У гэтым артыкуле фігуруюць і двойчы судзімыя С. Жараў і А. Шаткін, якія былі ў адной кампаніі зь І. Фаміным. Ён піша, што за месяц да трагічных падзеяў Шаткін і Фамін уладкаваліся на працу ў фірму «Еўраопт», а калі атрымалі першую зарплату па 100 даляраў кожны, вырашылі яе «абмыць». Спачатку расьпілі бутэльку віна ў знаёмай, а потым працягвалі піць у таксі «Пежо», якім кіраваў А. Паўленка. У салон селі ўчатырох: дзьве дзяўчыны, Фамін і Шаткін, потым да іх далучыўся Жараў. Яны вырашылі паехаць купацца на раку Пціч. Адправілі дзяўчат дадому, а самі па дарозе заехалі дамоў па рушнікі. Каля пад'езда яны сустрэлі А. Тарасенку і запрасілі яго з сабой. Далей цытую артыкул у "ЗЮ":



"Было 10 гадзінаў вечара. Таксі спынілася ля начной крамы на вуліцы Ландара: хлопцы вырашылі прыкупіць яшчэ гарэлкі. Прыехаўшы на "Пціч", Шаткін і Жараў, распрануўшыся, пайшлі купацца і калі выйшлі з вады, убачылі, што Фамін і Тарасенка аб нечым спрачаюцца. Шат-кін падыйшоў да Івана, узяў у яго нож і падыйшоўшы да "Жыгулёў, што стаялі непадалёку, без дай прычыны, пракалоў кола.

Апоўначы хлопцы пад'ехалі да мателя "Мінскі". Шаткін і Жараў пайшлі ў нумары гасцініцы. Вярнуўшыся, яны ўбачылі ў салоне машыны толькі вадзіцеля.

— Я адвёз вашых сяброў, яны выйшлі каля лесу, — патлумачыў ён.

— Пакажы, дзе ты іх высадзіў, — запатрабавалі хлопцы.

У хуткім часе яны пад'язджалі ўжо да таго мейсца — Шаткін і Жараў пачалі крычаць у цемру. На іх галасы зь лесу выйшаў Іван Фамін, у акрываўленых руках якога пал месяцовым сьвятлом паблісквала лязо нажа.

— А дзе Тарасенка?

— Я яго забіў: перарэзаў горла і выкалаў вочы, — цынічна адказаў Фамін.

Крыху пазней судмедэксперты налічаць на трупе дваццаць адно нажавое раненьне...

...Вадзіцель ведае пра забойства, што рабіць? — зьвярнуўся да Івана Фаміна Аляксандр Шаткін.

— Усё будзе прыгожа, толькі вы мне дапамажыце.

Фамін сеў побач з таксістам. Шаткін і Жараў — на заднім сядзеньні.

— Прабач, Алег, ты занадта шмат ведаеш, — пасьля гэтых слоў былі зробленыя першыя ўдары нажом у шыю і грудзі Алега Паўленкі. Не са слабых, вадзіцель паспрабаваў аказаць супраціўленьне і наваліўся на 20-гадовага забойцу, і тады той крыкнуў:

— Трымайце рукі!

Шаткін выскачыў з аўтамашыны і праз адчыненае вакно дзьверцы схапіў вадзіцеля за левую руку. Нанёс некалькі ўдараў кулаком па ягоным твары. Жараў у салоне утрымліваў правую руку таксіста, Фамін працягваў уторкваць нож. Страціўшага прытомнасьць Алега Паўленку выцягнулі з машыны.

— Ён жывы! — закрычаў Жараў.

Фамін хутка падбег да таксіста і таксама хутка яго дабіў.

— Давайце інсцэніруем «дэтэпэ», — прапанаваў Шаткін.

Праехаўшы праз вёску Шчомысьліца да звалкі, крымінальная троіца выцягнула з багажніка труп, пасадзіла яго на мейсца вадзіцеля. Падонкі зьнялі аўтамагнітолу, паклалі яе ў спартыўную сумку, аблілі салон бензінам і падпалілі. У палове пятай раніцы забойцы вярнуліся дамоў. Праз дзень іх затрымала міліцыя.

На днях Менскі абласны суд прыгаварыў Івана Фаміна да выключнай меры пакараньня — расстрэлу. Аляксандр Шаткін пазбаўлены волі на 15, а Сяргей Жараў — на 14 гадоў"...

Такое ўражаньне, што аўтар гэтага артыкула прысутнічаў на мейсцы здарэньня і быў са злачынцамі ў адной кампаніі. Яму ўсё зразумела. Ён перакапана «адбудаваў» ход падзей за кошт

*(Працяг на стар. 7)*

# Пад коламі «рынкавага сацыялізму»

Калісьці, напачатку 1994-га, стартаваўшы ў перадвыбарчай гонцы, кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Лукашэнка наабяцаў народу шмат усяго і адразу. Аднак ва ўдумлівага выбаршчыка гэтыя абяцанкі ўжо тады выклікалі, прынамсі, насьцярожанасьць. За вобразам «бітага», «стралянага» і нібыта «прыціскаемага ўладамі» дэпутата-дырэктара саўгаса выразна бачылася знаёмая да болю постаць: правадыра на браневіку. Ад таннага папулізму ў тагачаснай эканамічнай сітуацыі і пры яшчэ савецкім менталітэце масаў патыхала тым, праз што беларускі народ мог прайсьці зноў: перавароты, рэвалюцыі, экспрапрыяцыі, раскулачваньні...

Знаходзіліся людзі — здаецца, не дурныя, здаецца, адукаваныя, — якія чатыры гады таму пасьмейваліся з подобных прагнозаў. Але прагнозы тыя пачалі спраўджвацца.

Зазірнем у недалёкае мінулае. Стаўшы прэзідэнтам, Аляксандр Лукашэнка ўбачыў, што ня здолее даць народу абяцанае райскае жыцьцё. Ягоныя папярэднікі-папулісты — бальшавікі, некалі «указалі» працоўным на «ворагаў-крывасмокаў», абвясьціўшы вайну як класу так званым кулакам. Найбольш самастойная, гаспадарлівая і заможная частка сялянства (якое складала тады бальшыню насельніцтва) кінулі за краты, фізічна зьнішчылі... Абвясьціўшы ўсіх прыватных прадпрымальнікаў Беларусі гэткімі ж «паразітамі», заявіўшы пра намер «трэсьці» іх, як «вшивых блох», Лукашэнка абраў бальшавіцкі шлях: гвалтоўная «ураўнілаўка», татальны ўлік і кантроль...

Але то быў адно прывід камунізму! У хуткім часе ўсё прадпрымальніцтва было – не, не адзяржаўлена і экспрапрыявана на карысьць дзяржаўнага гаманца – падзелена на «сваіх» і «чужых». Для першых, аднадумцаў і паплечнікаў Лукашэнкі, распачалася сапраўдная эра капіталізму; а з тых, хто не падпарадкоўваўся, рабілі «ворагаў народа» або, кажучы пасучаснаму, па-«дэмакратычнаму» – звычайных крымінальнікаў.

Так, у мінулым годзе на сем гадоў пазбаўленьня волі быў асуджаны прадпрымальнік з Брэстчыны – дырэктар сельскагаспадарчай вытворчай фірмы «Івацэвічы» Уладзімір Кудзінаў. У. Кудзінаў быў абвінавачаны ў дачы хабару міліцыянтам. Прааналізаваўшы прыведзеныя на судзе доказы віны Кудзінава, незалежныя эксперты прыйшлі да высновы: доказы гэтыя для асуджэньня падсуднага недастатковыя. Да таго ж, сам Кудзінаў — дэпутат парламента, які падчас перавароту ў лістападзе 1996 г. не пажадаў перайсьці ў лукашэнкаўскую «палату»...

Пры ўсёй надуманасьці «доказаў», дэпутата-бізьнесоўца за хабарніцтва асудзілі на сем гадоў! Пры гэтым галоўнай улікай супраць Кудзінава быў... аудыёзапіс, якая быццам бы зроблены «падпольна» ў час размовы Кудзінава з міліцыянтам. Пры наяўнасьці шматлікіх супярэчнасьцяў у матэрыялах справы суд аддаў перавагу гэтай стужцы (у размове Кудзінаў нібыта прапаноўвае хабар — так былі растлумачаныя, у прыватнасьці, аўдыёзапісы). Але, паводле беларускіх законаў, прынятых ужо пры Лукашэнку, аудыёзапісы, тым больш – употай зробленыя, ня маюць юрыдычнай сілы і ня могуць з'яўляцца доказамі! Тым больш, што на маіх вачах суды неаднойчы адхілялі ад справы запісы на стужцы (асабліва ў працэсах палітычных, калі стужка сьведчыла аб правацe чалавека, ня згоднага з уладамі).

Пасьля асуджэньня У. Кудзінава ягоную фірму забрала сабе дзяржава. З крамаў зьніклі танныя і якасныя мясцовыя вырабы, якія вырабляла гаспадарка асуджанага бізьнесоўца. Частка маёмасьці была раскрадзена. Пра гэта паказаў сюжэт расейскі тэлеканал ГРТ, што выклікала гнеў уладаў. Але ўлады ня сталі лавіць злодзеяў! Гнеў абрынуўся на журналістаў, што распавялі пра крадзяжы, а таксама на жонку дэпутата-бізьнесоўца. Спачатку Зоі Кудзінавай невядомыя пагражалі па тэлефоне – за тое, што «ўзьнікае шум» вакол лёсу мужа і ягонай загубленай уладамі справы. А 8 чэрвеня 1998 года, на жанчыну позна ўвечары напалі двое бандытаў у чорных масках. Зоі Кудзінавай паабяцалі, што яе пакалечаць, калі яна не «супакоіцца» і не перастане «раздуваць справу мужа». Была і яшчэ адна з пагроза — «перакруціць справу» аб раскраданьні маёмасьці фірмы «Івацэвічы» і афіцыйна абвінаваціць у гэтым злачынстве жонку былога гаспадара фірмы...

Паказальны і лёс іншага бізьнесоўца, таксама дэпутата Вярхоўнага Савета, які застаўся верным Канстытуцыі 1994 г. Гаворка пра Андрэя Клімава. Гэта імя даволі вядомае ў Беларусі: Клімаў быў кіраўніком буйной будаўнічай фірмы, меў некалі ўласны банк, выпускаў штотыднёвую газету...

Падчас крызісу восеньню 96-га гэты чалавек быў адным з тых, чыя пазіцыя прагучала з парламентацкай трыбуны найбольш акрэсьлена і прынцыпова. Пасьля перамогі на так званым рэферэндуме Лукашэнкі, многія прадказвалі помсту Клімаву з боку дыктатара, мяркуючы, што прадпрымальнік хутка зьедзе за мяжу разам са сваёй сям'ёю. Андрэй Клімаў, аднак застаўся працаваць на Бацькаўшчыне – за што і пацярпеў. Спачатку па некалькі месяцаў правялі за кратамі ягоныя намесьнікі па будаўнічай фірме, а як толькі іх выпусьцілі, нічога не дабіўшыся, у турму ў Менску быў кінуты сам дэпутат. Кінуты, праўда, у якасьці бізьнесоўца: абвінавачваньне было сфармулявана як «парушэньне парадку прадпрымальніцкай дзейнасьці». Аднак, аналізуючы сітуацыю з будоўляй канкрэтнага дому ў сталіцы фірмай Клімава, нельга ня ўбачыць: у затрымцы грошай рабочым, мудрагелістых затрымках дакументаў вінаваты ня Клімаў і яго супрацоўнікі, а заказчык – Менскі гарвыканкам. Да



таго ж, Клімава арыштавалі пасьля актывізацыі яго дзейнасьці як дэпутата легітымнага парламенту. А. Клімаў — сябра сьпецыяльнай парламенцкай камісіі, якая расьследавала парушэньні Канстытуцыі і законаў Беларусі А. Лукашэнкам. І калі факты парушэньняў былі расьследаваныя і занатаваныя, кіраўніцтва ВС перабывала ў нерашучасьці, Клімаў палічыў абавязкам дэпутата і грамадзяніна давесьці інфармацыю камісіі да ведама мясцовых кіраўнікоў. Ад свайго імя ён пачаў рассылаць копіі пастановы камісіі па Беларусі. Хутчэй за ўсё, гэта і стала апошняй кропляй для ўладаў.

Правеўшы ў менскім СІЗА ужо чатыры месяцы, дэпутат Клімаў дагэтуль адмаўляецца ад дачы паказаньняў, спасылаючыся на сваю дэпутатскую недатыкальнасьць і незаконнасьць арышту. Лукашэнкаўскія ўлады ніяк не рэагуюць на запыты дэпутатаў Вярхоўнага Савету ў Пракуратуру Рэспублікі Беларусь і іншыя інстанцыі. Не адрэгавалі нават на такое вялікае, па мерках рэжыму, злачынства, як шэсьце і пікет, праведзеныя днямі шэрагам дэпутатаў без дазволу гарвыканкама. Між тым Андрэй Клімаў ужо другі раз трымае галадоўку пратэсту. Першы раз у выніку галадоўкі ён трапіў у рэанімацыю. Цяпер супрацоўнікі сьледчага ізалятара адмаўляюцца перадаць Клімаву лекі. На думку жонкі дэпутата Тацьцяны Клімавай, замест лекаў яе мужу могуць даваць псіхатропныя рэчывы, каб выцягнуць з яго паказаньні. Пасьля публікацый у незалежнай прэсе А. Клімаву пагоршылі ўмовы ўтрыманьня: у камеры на двое нараў 4 было чалавекі. Цяпер улады праявілі «гуманізм»: у камеры Клімава стала на аднаго чалавека менш. Галадоўка працягваецца.

Справы бізьнесоўцаў, якія не зыходзяцца з Лукашэнкам у поглядах на метады кіраваньня Беларусьсю, прэзідэнт трымае пад асабістым кантролем. Не выключэньне і справа яшчэ аднаго вядомага прадпрыймальніка – Аляксандра Пупейкі. Некалькі гадоў таму пра ягоную аўтамабільную фірму «Пушэ» пісалі ўсе газеты Беларусі — у тым ліку і прэзідэнцкія. Але леташняй зімой Пупейка па просьбе беларускіх уладаў быў затрыманы ў суседняй зь Беларусьсю Польшчы. Абвінавачваньне – крадзяжы ў буйных памерах. Пасьля вызваленьня пад заклад А. Пупейка даў інтэрв'ю польскай прэсе, сьцьвярджаючы, што ягоны перасьлед мае палітычны характар. Тое, што беларускія ўлады называюць крадзяжамі, на самой справе было пазыкай грошай пад гарантыю іншай фірмы, гаворыць Пупейка. Датаго ж, пазыка гэта вернутая. На думку бізьнесоўца, сапраўдная прычына яго арышту і ліквідацыі «Пушэ» ў Беларусі — падтрымка асабіста ім апазіцыі, а таксама веданьне некаторых таямніцаў «бізьнесу» набліжаных да Лукашэнкі чыноўнікаў. А. Пупейка нават зрабіў сенсацыйную заяву пра тое, што ведае, у якіх банках на захадзе Лукашэнка й яго каманда трымаюць нарабаваныя грошы... Дарэчы, прэзідэнцкія СМІ, якія звычайна «ня заўважаюць» справы падобнага кшталту, адрэагавалі на інтэрв'ю Пупейкі надзвычай нярвова: кінуліся не тое што даводзіць чэснасьць «бацькі» – абвінавачваць Пупейку (і ўсю апазіцыю разам з ім). Бізьнесоўцу пашанцавала: суд у Польшчы, разабраўся ў справе і не знайшоў падставаў для выдачы Пупейкі беларускаму боку. А. Пупейка і яго сям'я застаюцца ў Польшчы, дзе бізьнесмен атрымаў палітычны прытулак.

У выпадку вяртаньня ў Беларусь Аляксандра Пупейку чакаў бы той самы лёс, што Андрэя Клімава і Уладзіміра Кудзінава: краты, зламанае здароўе, перасьлед сваякоў... Што казаць, калі такі лёс напаткаў нават знакамітасьць яшчэ савецкіх часоў, апалітычнага чалавека – Двойчы Героя Сацыялістычнай працы Васіля Старавойтава? 74-гадовы старшыня ЗАТ «Рассвет», абвінавачаны ў раскраданьні маёмасьці, знаходзіцца ў турме ўжо паўгода, пе-ражыў інсульт, пакутуе ад хваробаў. У Кіраўску (Магілёўская вобласьць) асуджаны яго «саўдзельнікі» - дачка і зяць, пад сьледствам знаходзяцца сыны... Пры гэтым В. Старавойтаў ніколі не падтрымліваў беларускую апазіцыю, скіраваную на незалежнасьць Беларусі — гэта быў чалавек, узрошчаны савецкім часам, якому, відавочна, бліжэй за папулізм Лукашэнкі была саветызаваная стабільнасьць Кебіча. Але –«хто не з намі, той супраць нас», палічыў прэзідэнт. Гаспадарка, якой кіраваў Старавойтаў, самім сваім існаваньнем ушчэнт разьбівала ўсе ідэалагічныя пастулаты пра перавагу са-вецкай калгаснай сістэмы. Бо гэта была ўжо не савецкая сацыялістычная гаспадарка...

Напачатку я згадвала пра новы беларускі лад – «капіталізм для сваіх». За ўсімі буйнымі палітычнымі скандаламі, зьвязанымі з імем Лукашэнкі, стаіць эканоміка. Дакладней — імкненьне прыбраць да рук гэтую эканоміку. Ніхто сёньня ня ведае дакладна, колькі грошай абарочваецца праз «ценявы» прэзідэнцкі бюджэт, фактычна ўзаконены апошнім рэферэндумам. Затое за кантрабандай гарэлкі, за дзейнасьцю вядомай сумніўнай фірмы «Торгэкспо», перакачваньнем сродкаў праз так званы фонд Махмуда Эсамбаева, у некаторыя расійскія банкі, стаіць «дах» – упраўленьне справамі адміністрацыі прэзідэнта. (Ёсьць зьвесткі, што гэтае ведамства мае фінансавыя сувязі з расійскімі камуністамі, прыхільнікамі СССР – ствараецца агульная фінансава-палітычная сістэма з удзелам Нацбанка Беларусі, які, дарэчы, пры Лукашэнку мае ўжо пятага старшыню...)

Першыя гаспадарчыя крокі сёньняшніх уладаў, калі упраўленьне справамі прысабечвала лепшыя будынкі, адпаведна падвышаючы арэндную плату для фірмаў і грамадскіх арганізацыяў, ужо могуць здацца дзіцячымі гульнямі. Але гульні «сваіх» перайшлі ў сферу палітычную, манапалізуючы паступова ня толькі эканоміку. Што да прадпрымальнікаў, то, каб пазьбегнуць «ліквідацыі як класу», у сэнсе дзелавым альбо фізічным, — для іх засталіся два шляхі. Альбо эміграваць за мяжу, альбо стаць для рэжыма «сваімі» і ўзьлезці з Лукашэнкам на бранявік...

**Тацьцяна СЬНІТКО**

# Вызваліць дэпутатаў Клімава і Кудзінава

### *Прэс-рэліз пасольства ФРГ у Рэспубліцы Беларусь*

Дэлегацыя парламенцкай групы "Беларусь" Бундэстагу ФРГ на чале з Утай Цапф знаходзілася зь візітам у Менску з 10 па 12 чэрвеня з мэтаю правядзеньня азнаямляльных гутарак.

Дэлегацыя правяла сустрэчы з членамі Вярхоўнага Савету 13-га склiканьня, законнага, прызнаваемага Еўрапейскім Саюзам парламенту, прадстаўнікамі "Хартыі-97", старшынёй Беларускага Хельсінкскага камітэта, а таксама зь іншымі прадстаўнікамі актыўных дэмакратычных групаў.

"Мы з заклапочанасьцю назіраем разьвіцьцё падзеяў у Рэспубліцы Беларусь, — заявіла Ута Цапф па заканчэньні гутарак, — Існуе на дзіва вялікая колькасьць ініцыятыў і групаў, аж да саюза прадпрымальнікаў, сябры якіх выступаюць за дэмакратызацыю краіны, у той час як урад у вялікай ступені прыніжае дэмакратычныя правы. На жаль, ні палітычныя партыі, ні іншыя групоўкі ня маюць доступу да сродкаў масавай інфармацыі, якія кантралююцца дзяржавай. Свабода слова і сродкаў масавай інфармацыі значна абмежаваная, а тыя нешматлікія магчымасьці для работы будуць канчаткова перакрытыя праектам папраўак у закон аб друку, які ўжо ёсьць", — адзначыла спадарыня Цапф. Ад імя дэлегацыі яна заклікала прэзідэнта А. Лукашэнку аднавіць свабоду сродкаў масавай інфармацыі.

На думку дэпутатаў Бундэстагу, будучыня краіны залежыць ад правядзеньня свабодных выбараў, якія павінныя даць шанц усім палітычным партыям. Пры гэтым прысутнасьць міжнародных назіральнікаў зьяўляецца неабходнай умовай, падкрэсьліла спадарыня Цапф. Першапачаткова патрабуецца стварэньне выбарчага заканадаўства. Дэпутаты заклікалі як урад, так і апазіцыю з дапамогаю місіі АБСЕ прыйсьці да кампрамісу у пытаньні правядзеньня свабодных выбараў.

З асаблівай заклапочанасьцю дэпутаты Бундэстагу адрэагавалі на арышт двух дэпутатаў Вярхоўнага Савету Клімава і Кудзінава, з-за нібыта эканамічных злачынстваў. Апазіцыя падвяргаецца ціску, сказала спадарыня Цапф. Узьнікае атмасфера страху, якая павінна запалохаць усе апазіцыйныя групы. Члены парламенцкай групы "Беларусь" Бундэстагу ФРГ запатрабавалі вызваленьня дэпутатаў Клімава і Кудзінава.

# Падзеі Факты Каментарыі



Знакаміты беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў перад ад'ездам у Фінляндыю.

(Пачатак на стар. 1)

*1 чэрвеня* — сьпецыяльная камісія міністэрства юстыцыі прыняла рашэньне пазбавіць адваката Гары Паганяйлу адвакацкай ліцэнзіі. У склад гэтай камісіі, якую узначальвае намесьнік міністра Галаванаў, уваходзяць адвакаты, прадстаўнікі судоў, пракуратуры і Савета бясьпекі. Г. Паганяйла зьбіраецца зьвярнуцца па абарону ў суд. Вядомы далёка за межамі Беларусі адвакат пацярпеў найперш за тое, што абараняў у судзе палітзьняволеных.

*3 чэрвеня* — пракурор Менскай гарадской пракуратуры М. Купрыянаў паведаміў лідэру "Народнай Грамады" Міколу Статкевічу, што пракуратура лічыць беспадстаўным вынесены яму апраўдальны прыгавор за правядзеньне першамайскай дэманстрацыі ў Менску. Пракуратура накіравала пратэст у Менскі гарадскі суд, у якім патрабуе новага разгляду "справы" Статкевіча.

*3 чэрвеня* — пад падпіску аб нявыезьдзе, пасьля двух месяцаў зьняволеньня, быў выпушчаны лідэр "Маладога Фронту" Павел Севярынец. Яго дэпартавалі ў Віцебск, дзе жывуць ягоныя бацькі.

*4 чэрвеня* — нелегітымнай Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі прыняты закон аб зьменах у ранейшых законах, у якіх гаворыцца пра абарону і годнасьць прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Цяпер за паклёп, ці за зьнявагу годнасьці прэзідэнта могуць пазбавіць волі да 4-х гадоў, а пры паўторным дзеяньні — да 5 гадоў. Фактычна любая крытыка дзеяньняў А.Лукашэнкі становіцца небясьпечнай.

*У чэрвені* — вядомы беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў зьехаў у Фінляндыю па запрашэньні фінскага ПЭНклубу. Гэты крок пісьменьніка, своеасаблівай творчай эміграцыі, яшчэ раз падкрэсьліў ягоную прынцыповую пазіцыю да рэжыму прэзідэнта А.Лукашэнкі.

*6 чэрвеня* — у адпаведнасьці з Дэкрэтам прэзідэнта Беларусі, з гэтага дня ўсе мытныя плацяжы за прывезеныя з-за мяжы аўтамабілі грамадзяне Беларусі павінны выплочваць ў валюце. Валютай будуць аплочваць мытныя плацяжы і "чаўнакі", калі будуць увозіць рэчы звыш усталяваных нормаў. Такім чынам Лукашэнка хоча папоўніць пусты дзяржаўны бюджэт. Пры гэтым зусім ня ўлічваецца, дзе і як можна грамадзянам набыць гэтую самую валюту. У дзяржаўных банках і абменных пунктах яе няма. Асабліва церпяць цяпер грамадзяне, якія хацелі б выехаць за межы Беларусі на адпачынак альбо да родных.

*8 чэрвеня* — у Івацэвічах, увечары, на жонку дэпутата Кудзінава, якая нядаўна выступіла па расійскаму каналу ОРТ, напалі двое невядомых у масках. Яны пагражалі ёй пабоямі.

*9 чэрвеня* — група дэпутатаў Вярхоўнага Савета зьвярнулася да генеральнага пракурора Бажэлкі з патрабаваньнем вызваліць з турмы дэпутата А.Клімава. Частка дэпутатаў трымала лозунгі "Свабоду дэпутату Клімаву!" і "Свабоду дэпутату Кудзінаву!" "Спыніць палітычныя рэпрэсіі!". Затрыманьне А.Клімава яны расцэньваюць як "яскравы прыклад найгрубейшага парушэньня правоў чалавека". Каля турмы, дзе трымаюць А.Клімава, яны правялі пікет.

*10 чэрвеня* — як паведаміла газета "Навіны", рэдактара незалежнага выданьня "Вольны горад" у г.Крычаў Сяргея Няроўнага, за тое, што ён распачаў выданьне гэтай газеты, выклікалі ў райвыканкам, у райаддзел міліцыі, на паседжаньне адміністратыўнай камісіі, "пагражалі і перасьцерагалі".

*10 чэрвеня* — са сьпецыяльнай заявай на тэму гвалтоўнага высяленьня дыпламатычнага корпусу з арэндаваных імі будынкаў у Менску, выступіў прэс-сакратар дзяржпэпартаменту ЗША Рубін, які ацаніў гэты інцыдэнт, як адзін з самых сур'ёзных за апошнія гады. Ён назваў дзеяньні беларускіх уладаў "бязглуздай правакацыяй".

*11 чэрвеня* — як паведаміла газета "Имя", супрацоўніцу пошты Ірыну Н. пазбавілі месячнай прэміі і далі строгую вымову за тое, што яна паставіла штэмпель на марку з выявай А.Лукашэнкі і закранула штэмпелем твар прэзідэнта.

*12 чэрвеня* — жыхар Віцебску Юры Мароз папрасіў у Чэхіі палітычнага прытулку. За апошнія два гады Ю.Мароз за сваю палітычную дзейнасьць быў аштрафаваны на 75 мільёнаў рублёў і адсядзеў у турме больш за 30 дзён. З-за сваіх палітычных перакананьняў, ён ня мог знайсьці сабе працу, быў жорстка зьбіты невядомымі. Ня так даўно, у ягоную адсутнасьць дома, міліцыяй былі ўзламаныя дзьверы ягонай кватэры.

*13 чэрвеня* — дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Валерый Шчукін на будынку Міністэрства унутраных спраў Рэспублікі Беларусь, сярод белага дня, напісаў зялёнай фарбай "Свабоду дэпутату Клімаву!" В. Шчукін тройчы абвёў фарбай напісаныя словы, перш чым да яго пад'ехалі дзьве міліцэйскія машыны. Пасьля арышту дэпутат і вядомы журналіст двое сутак прабыў у сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку на вуліцы Акрэсьціна. А 15 чэрвеня судзьдзя Цэнтральнага суда г. Менску А. Барысёнак прысудзіў В. Шчукіну 10 сутак арышту за дробнае хуліганства па артыкуле 156 Адміністратыўнага кодэксу РБ.

## Дзякуй за дапамогу!

***Праваабарончы Цэнтр "Вясна-96" выказвае падзяку спадару Мілану ШЧАСНАМУ з чэскага гораду Трэбіч за падтрымку. Зь ягонаю дапамогаю Цэнтр "Вясна-96" атрымаў для выданьня бюлетэню "Права на волю" кампутар і факс-мадэм.***

# Кошт памылкі — сьмерць невінаватага чалавека

*(Пачатак на стар. 3)*

сваёй фантазіі. Бо чым жа яшчэ можна растлумачыць прыдуманую гісторыю для характарыстыкі абвінавачанага Івана Фаміна? Цытую: «...У адзін з майскіх дзён, напрыклад, п'яны Іван падыйшоў да сядзеўшых на лаўцы жанчынсуседак, якія літаральна анямелі ад таго, што ўбачылі ў ягоных акрываўленых руках.

— Купіце за дваццаць тысяч рублёў, хачу выпіць, — п'яны хлопец працягнуў ім выразанае кацінае вока..."

Трэба адзначыць, што гэты «факт» ніколі ня меў мейсца ў біяграфіі І. Фаміна і суседкі нічога пра яго ня ведаюць. Дарэчы, адвакат І. Ільіна падала зыск у суд на «ЗЮ» за гэты артыкул.

Але, што ж адбылося на самой справе? Сапраўды ў ноч з 1 на 2 ліпеня 1997 г. У Менскім раёне адбылося жорсткае забойства двух чалавек. У гэтым страшным злачынстве былі абвінавачаныя 3 чалавекі, але сьмяротнае пакараньне вынесенае толькі Івану Фаміну, 1978 г. н., раней не судзімага, на уліку ў міліцыі не зарэгістраванага. Праходзіўшыя ў гэтай справе Шаткін, 1976 г. н., двойчы судзімы, і Жараў, 1978 г. н., двойчы судзімы, атрымалі доўгія тэрміны пазбаўленьня волі.

Але існуюць факты, якія дазваляюць меркаваць, што Фамін агаварыў сябе ў працэсе сьледства, прыняў чужую віну, а сапраўдныя забойцы змаглі захаваць свае жыцьці. Бо ў гэтай справе ёсьць шмат акалічнасьцяў, якія прымушаюць сумнявацца ў высновах, зробленых сьледствам.

Шаткін і Жараў былі арыштаваныя на чацьвёрты дзень пасьля забойства, Фамін добраахвотна прыйшоў у міліцыю праз 3 дні пасьля іх арышту. Ёсьць сьведка, што перад гэтым зь Іванам доўга размаўлялі браты Шаткіна і «падзельнік» Шаткіна па былой судзімасьці. Перад тым як ісьці ў міліцыю Іван плакаў, казаў, што пойдзе прызнавацца ў забойстве 2 чалавек, але ж некалі праўда адкрыецца і ўсе даведаюцца, што ён невінаваты. Сьведку гэтага ў працэсе сьледства не дапытвалі, у суд не выклікалі, а між іншым гэта быў апошні чалавек, зь якім Іван бачыўся на свабодзе. Потым, на паседжаньні Вярхоўнага суда, Фамін расказаў, што калі ён прыйшоў у міліцыю і хацеў распавесьці аб падзеях таго вечара, яму не дазволілі «зьмяніць карціну злачынства», якая склалася ў сьледства ў выніку паказаньняў арыштаваных раней Шаткіна і Жарава. Ён таксама паведаміў, што браты Шаткіна спачатку прасілі ўзяць на сябе віну, каб уберагчы ад расстрэлу раней судзімых іх брата і Жарава, а потым пачалі пагражаць яму расправай на зоне і забойствам ягоных малодшых сясьцёр. На кожным спатканьні з маці ён прасіў яе зьехаць з Менску.

Дарэчы, ня знойдзены і той самы нож, якім зьдзейсьненае злачынства. Іван ня змог пазначыць мейсца забойства Тарасенкі А., а Жараў (які зь ягоных словаў не прымаў удзелу ў гэтым) паказаў адразу.

Вынікі эксьпертызы: на адзеньні і абутку Івана ня знойдзена сьлядоў крыві забітых. Але ж, з матэрыялаў сьледства вынікае, што ён нанёс больш за 100 удараў нажом. У той жа час кроў забітых была знойдзена на вопратцы Шаткіна. Жараў увогуле не прад'явіў сваё адзеньне сьледству. На пасяджэньні Вярхоўнага суда Іван назваў дакладнае мейсца знаходжаньня таго адзеньня. Але гэта нікога не зацікавіла.

Не было праведзена сьледчых эксьпериментаў. Чамусьці ні ў кога ня ўзьніклі сумненьні наконт таго, як змог Іван адужаць значна мацнейшага за яго кіроўца таксі Паўленка Алега. Іван па гэтым эпізодзе ня мог даць паказаньняў, бо спаслаўся на тое, што ў гэты момант ён страціў памяць.

Рана на пальцы правай рукі Івана, якая нібыта сьведчыць аб тым, што ён дзейнічаў у тую ноч нажом, зьявілася пасьля бойкі ў пад'ездзе дома Фаміна ў канцы чэрвеня пасьля таго, як ён кулаком разьбіў шкло. Ёсьць некалькі сьведкаў гэтай бойкі.

Такім чынам, ня існуе бясспрэчных доказаў таго, што менавіта Іван Фамін забіваў ці прысутнічаў пры гэтых злачынствах. Паколькі ён ня ведаў падрабязнасьцяў злачынства, то паведаміў, што страціў памяць, і самога злачынства ня памятае. Усё сьледства грунтавалася на паказаньнях Шаткіна і Жарава, Фамін толькі пацьвярджаў іх словы.

Удзельнікі злачынства абаранялі сябе, а Іван падыгрываў ім, бо баяўся за жыцьцё блізкіх яму людзей, за сваю сям'ю. На самой справе ён добра памятае вядомыя яму падрабязнасьці таго вечара, аб чым ён казаў і маці на спатканьні, і адвакату, і на паседжаньні Вярхоўнага суда.

...У той вечар Іван разам з Шаткіным і Жаравым запрасілі Тарасенку Андрэя купацца на Пціч. Перад купаньнем заехалі ў матэль. Там Іван пайшоў па цыгарэты ў той час, як машына з Шаткіным, Жаравым і Тарасенкам паехала. Празь некаторы час машына вярнулася, але Тарасенкі ў ёй не было. Шаткін і Жараў на пытаньні Івана пра Андрэя нічога не адказалі, а загадалі яму ісьці дамоў. Самі яны адправіліся ў накірунку да Пцічы. Іван, які аплаціў усе выдаткі гэтага вечару і быў пакінуты ні з чым, пабег за машынай. Праз некаторы час ён убачыў, што машына стаіць на дарозе. З машыны вылез Шаткін, загадаў яму ісьці дамоў, і дадаў, што прыйдзе да яго пазьней і ўсё яму растлумачыць. Іван вярнуўся дамоў каля 2 гадзінаў ночы, а каля 4 гадзінаў да яго прыйшоў Шаткін...

Аднак ні сьледства, ні суд не зьвярнулі ніякай увагі на супярэчнасьці ў гэтай справе. На жаль, па-ранейшаму галоўным для нашага правасудзьдзя зьяўляюцца хуткасьць раскрыцьця злачынства і строгае пакараньне за яго. Пра справядлівасьць пры гэтым ніхто ня думае.

Маці Івана Фаміна зьвярталася са зваротам у Вярхоўны суд. Была на прыёме Генеральнага пракурора РБ, але рашэньне суда так і не зьмянілі. Хлопца чакае расстрэл. Праваабарончы цэнтр «Вясна-96» зьвярнуўся ў Вярхоўны суд з патрабаваньнем прыпыніць выкананьне прысуду і накіраваць справу на праверку. Зараз выкананьне прысуду адкладзена на тэрмін праверкі.

Цэнтр «Вясна-96» паведаміў, што будзе кантраляваць гэтую справу і праінфармаваў аб ёй іншыя міжнародныя праваабарончыя арганізацыі.

**Л. ЛУНЁВА**

***P. S.*** *Мы абавязкова праінфармуем чытачоў бюлетэня пра тое, чым закончыцца справа Івана Фаміна.*

# Зноў падзел на "сваіх" і "чужых"

У сваім жаданьні ўсё нацыяналізаваць, а па-просту "прыватызаваць" альбо манапалізаваць, прэзідэнт і ягоныя паплечнікі дабраліся, нарэшце, і да недзяржаўных ВНУ. Дазволеная з пачаткам незалежнасьці платная вышэйшая адукацыя, пасьля "клопату" пра яе прэзідэнцкай адміністрацыі можа памерці, так і не стаўшы на ногі. Справа ў тым, што ў "вертыкальных" нетрах вынайшлі "закон" паводле якога студэнтам недзяржаўных ВНУ будзе выдавацца не дыплом агульнаўстаноўленага дзяржаўнага ўзору, а спецдыплом пра заканчэньне адукацыі. Тым самым вартасьць "недзяржаўнай" адукацыі зводзіцца на нішто. І атрымліваецца, што каля 30 тысяч студэнтаў, якія сёньня вучацца ў такіх ВНУ, дарэмна патрацілі свае грошы і час. Бо там жа, у вертыкалі, "блукае" ўжо і новае распараджэньне: выпускнікоў з такімі "даведкамі аб адукацыі" на дзяржаўную працу не прымаць...

Такім чынам, улады Беларусі ідуць на сьвядомае парушэньне ня толькі агульначалавечых правоў на адукацыю, на працу, але і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, Закона "Аб адукацыі ў РБ". выпускнікоў ВНУ падзеляць на "сваіх" і "чужых", на "першагатунковых" і "другасных". Не думаем, што робіцца гэта дзеля гэтакзванай "сацыяльнай справядлівасьці". Такім чынам вынішчаецца любое вольнадумства ды іншадумства ў нашай краіне, любая незалежнасьць ад дзяржаўных структураў...

**Наш кар.**

# У спратах "Валадаркі"

## Дахаты

Мусіць, адзіны закон, які не парушае адміністрацыя калоніі, гэта своечасовае вызваленьне. Нават, калі дзень твайго вызваленьня прыпадае на выходны альбо сьвяточны, у гэтым выпадку ён залічваецца на карысьць асуджанага. Напярэдадні мяне выклікаў опер, каб удакладніць адрэсу, куды я мушу вяртацца. Пасьля чаго ён выпісаў "ксіву"( у дадзеным выпадку — даведку аб вызваленьні). У сваю чаргу я падпісаўся, што ў трохдзённы тэрмін абавязуюся стаць на ўлік ва ўчастковага па мейсцы жыхарства. Каб ня мець залішняга клопату пры разьліку з заўгасам, я даў яму два пачкі LM. Але больш за ўсё мяне зьдзівіў разьлік з бухгалтэрыяй. Таўсматая, поўная жанчына ў чыне маёра пагартала нейкія паперкі, а потым паведаміла, што ніякога заробку ў мяне няма. Я паспрабаваў растлумачыць, што за апошнія тры месяцы, працуючы на салетры, я не атрымаў ні рубля. На што чырвонашчокая ментоўка запытала:"А ці ведаеш колькі каштуе тваё утрыманьне?" Я моўчкі [illegible]нуў [illegible] ля чаго яна [illegible] сходы [illegible] не [illegible] хапіць на [illegible], каб [illegible] з т[illegible] перасад камі са Стара[illegible]ьля д[illegible]енску.

Аб фінансавых махінацыях, якія адбываліся ў калоніі, гаварыў амаль кожны, хто атрымліваў разьлік. Я дакладна ведаў некалькі выпадкаў, калі асуджанаму быццам бы выпісвалі матэрыяльную дапамогу, ён распісваўся ў ведамасьці, але грошы не атрымліваў. Куды і каму ішла "дапамога" — можна было толькі здагадвацца. Пад час знаходжаньня ў калоніі я нагледзеўся на ментоўскі "беспредел", таму фінансавыя праблемы не сапсавалі мой добры настрой.

Самы шчасьлівы дзень у калоніі — гэта дзень твайго вызваленьня. Але разьвітаньне зь сябрамі заўсёды балючае. У апошні дзень хочацца пакінуць аб сабе добры ўспамін. Увечары я дастаў свой кешар і раздаў усё, што ў ім было, сабе пакінуў толькі нататнік ды пакет з лістамі. А дзеля нагляднага прыкладу, чым харчуецца пераважная большасьць асуджаных у калоніі, адсыпаў сабе 100 грамаў камбікорму, каб паказаць на волі. Толькі "шныры"(мянтоўскія халуі) цягнуць на волю вялізныя кешары з адзеньнем ды абуткам, выменянымі за бохан хлеба ці пачак цыгарэтаў у зэкаў з новага этапу.

За адхадную мне давялося прыставіць амаль дзесяць літраў "чыфу" і чатыры пліткі шакаладу.

Апошняя ноч падалася бясконцай. Зраніцы я ўзяў у капцёрцы сваё чыстае адзеньне і яшчэ раз агледзеў яго. Вельмі не хацелася завезьці дамоў "хатніх" насякомых. Калі ў "хату" увайшоў мент і сказаў:"З рэчамі на КП", я быў цалкам сабраны. Я зьдзекліва ўсміхаўся, калі апошні раз прапар наводзіў шмон у маім пакеце. Заўважыўшы маю рэакцыю, дзяжурны маёр сунуў даведку аб вызваленьні і пры гэтым вымавіў: "Рана ўсьміхаешся, глядзі не даедзеш да дому". Словы маёра ледзь ня сталіся прарочымі. Да Оршы я дабраўся хутка і бесперашкодна. Каб не чакаць электрычку, я набыў квіток на бліжэйшы цягнік, які ішоў празь Менск у бок мяжы і патэлефанаваў родным, каб сустракалі. Фірменны маскоўскі цягнік у параўнаньні са "сталыпінскім" вагонам падаўся раем. Вагон быў амаль пусты. Я сядзеў і думаў пра тых людзей, якія дапамагалі мне напрацягу ўсяго тэрміну, а цяпер чакалі мяне ў Менску. Я быў удзячны ім.

Час цягнуўся марудна і каб "паскорыць" яго, я папрасіў расейскую правадніцу разбудзіць мяне ў Менску, а сам лёг спаць. Калі я прачнуўся і зірнуў у вакно, быў страшэнна ўражаны: беларуская сталіца засталася ззаду. Я пабег да правадніцы і стаў абурацца, але яна сказала, што я сам вінаваты. Мне нічога іншага не заставалася, як чакаць бліжэйшую станцыю Стоўбцы. Не прайшло і дзесяці хвілінаў, як да мяне ў купэ ўламіліся два расейскія менты на чале з правадніцай.

Над маёй галавой закруціліся маленькія, зробленыя на захodні манер, дубінкі. Менты пачалі патрабаваць пашпарт. Я стаў абурацца, за што атрымаў некалькі ўдараў дубіналам. Гэтыя ўдары, пасьля арматуры прапаршчыка Александровіча, падаліся камарынымі ўкусамі. Я паказаў мянтам даведку аб вызваленьні. Мяне тут жа абвінавацілі ў крадзяжы. Пад час стаянкі цягніка ў Менску з купэ праваднiцы нехта скраў грошы. Праваднiца сьцьвярджала, што ў гэты момант у вагоне знаходзіўся толькі я. Мяне прашманалі да трусоў. Дзякуй лёсу, што пры сабе я ня меў ні расейскіх рублёў, ні даляраў, інакш дахаты я сапраўды не даехаў бы.Да Менску я дабраўся, калі пачало цямнець.

На вакзале мяне ўжо ніхто не чакаў, і я паціху пайшоў у бок Траецкага прадмесьця. На вуліцы Валадарскага я спыніўся і паглядзеў на трохпавярховую камяніцу з чатырма круглымі вежамі па баках. Я прыгадаў свайго сябра, зь якім прайшоў праз спраты "Валадаркі", і які зараз заставаўся у калоніі "на кічы", чакаючы новага этапу ў Бабруйскую зону, прыгадаў іншых, да таго незнаёмых мне людзей, якія заставаліся тут у чаканьні прысуду, прыгадаў нечалавечыя ўмовы ўтрыманьня падсьледных... і ўпершыню за гадзіны, што правёў на свабодзе, адчуў сябе вольным чалавекам...



**Мікола КАЧАН**

*(Працяг.*
*Пачатак у №№2-3, 5-10)*

**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96". Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў. Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88.E-mal:rights@v96.open.by. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**

*У нумары скарыстаныя малюнкі А. Карповіча і фотаздымкі з архіву Цэнтра "Вясна-96"*